ISSN 0700-5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! — К. Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



# ЗВАЖАЙ

**Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Бышых Беларускіх Вайскоўцаў**

**ZVAZAJ. Veterans quarterly published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans. Canada Office: 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont., M4K 1C2 U.S. address: Assn of Byelorussian American Veterans, 9 River Rd., Highland Park, N.J. 08904, U.S.**

**Год 17** Чырвень, 1991 **Нр. 2 (62)**

## ЛІДАРЫ БНФ У КАНАДЗЕ



На прыняцьці ў ратушы Таронта, зьлева направа: Л.Баршчэўскі, З.Пазьняк, мэр Таронта Арт Эглтан, У.Заблоцкі, алдэрман Бойчук і старшыня Галоўнай Управы ЗБК М. Ганько.

Сёлета ў пачатку красавіка ў Злучаныя Штаты прыехалі зь Менску, на запрашэньне БАЗА, выдатныя госьці, — яны-ж на чале Беларускага Народнага Фронту, — Зянон Пазьняк, Ул. Заблоцкі і Л. Баршчэўскі. Пасьля наведаньня розных інстытуцыяў беларускіх і амэрыканскіх, кантактаў у Ню Ёрку й Вашынгтоне, прыехалі яны ў Таронта 15-га красавіка, пабылі ў Канадзе два тыдні й паехалі адсюль у Кліўленд. У Канаду яны былі запрошаныя Згуртаваньнем Беларусаў Канады, што існуе тут ад 1948-га году.

Падарожжа нашых менскіх гасьцей да нас мела важныя заданьні: бліжэй пазнаёміцца з Амэрыканцамі й Канадыйцамі беларускага паходжаньня, сустрэць прадстаўнікоў урадаў абедзьвюх дзяржаваў, навязаць кантакты з эміграцыйнымі, гаспадарчымі, гандлёвымі, навуковымі адьдзеламі ўрадаў ці інстытуцыямі. Праграма амбітная, а часу ў абрэз. Кажны дзень перапоўнены. А там, апроч гэтага, трэба тэлефанічна трымаць кантакт з бацькаўшчынай. Менск страйкуе!

Дарэчы, цікавая дэталь. Канада сваім паслом аплачвае тэлефоны, а вось Менск на гэта ня мае грошай, бо камуністычныя паразіты яшчэ жыруюць пры ўладзе. А прасторы-ж канадыйскія, адлегласьці! Самая правінцыя Антарыё тры разы большая за этнаграфічную Беларусь, нават калі браць пад увагу забраную Вільню, Смаленск і Беласток...

16-га красавіка раніцай гасьцей прыняў у ратушы Таронта мэр Арт Эглтан. Яго цікавіла ўсё пра Беларусь, асабліва-ж палітычныя працэсы дэмакратызацыі й шляхі да рыначнай сыстэмы. Мэр Эглтан даў гасьцям сымбалічныя падаркі ад гораду: гальштукі й прыпінкі. Таронта ёсьць цэнтрам беларускага нацыянальнага і арганізацыйнага жыцьця ў Канадзе. Перад гарадзкой ратушай кажны год, на сьвята абвешчаньня незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі 25-га сакавіка, лунае беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Ці раз прадстаўнікі "імпэрыі зла" нападалі на старшыню гораду за гэты сьцяг на машце перад гарадзкой ратушай і за тое, што ён 25-га сакавіка абвяшчаў "Беларускім Днём".

Перад паўднём таго-ж дня тры паслы зь Менску, ў суправодзе старшыні ЗБК, наведалі Антарыйскі парлямэнт у Квінс Парку. Спікар парлямэнту прадставіў іх прысутным паслом. Як усюды пасьля, так і тут, паслы адкрывалі для сябе новую краіну, што імкнецца да дзяржаўнай незалежнасьці. Трэба нашым чытачом на бацькаўшчыне ведаць, што ў Канадзе і ў Злучаных Штатах, галоўна з прычыны антыбеларускага рэфлексу ў мідыя (у друку й іш.), які стварылі варожыя нам палякі й расейцы, Беларусь як самастойны й культурай багаты народ, як дзяржава зусім у шырокім грамадзтве няведамая.

Наступнымі днямі нашыя госьці зь Менску наведвалі розныя адьдзелы ўраду Антарыё, іншыя інстытуцыі. Карысным аказалася візыта дэпартаманту гандлю Антарыё для Ўсходняй Эўропы, а таксама ўнівэрсытэту ў Гвэлфе, зь ягоным перадавым у краіне адьдзелам сельскай гаспадаркі. Гэтта было нашым менскім паслом прыемна й цікава паглядзець як гаспадарыць і што гадуе адна зь перадавых краінаў земляробства ў сьвеце. Канадыйцы далі нашым паслом інфармацыі як у будучыні трымаць і пашыраць сувязі для эканамічных інтарэсаў Антарыя і Беларусі. Нашыя госьці, — а перадусім старшыня БНФ сп. З. Пазьняк, — выступалі з дакладамі для прафэсараў і студэнтаў таронцкага і аттаўскага Карлтон унівэрсытэтаў. Тэмай была сувэрэнная Беларусь, ну і, вядома-ж, майстры-макляры "перастройкі", што давялі "імпэрыю зла" да эканамічнае руіны. Гэта-ж у Тароньце, у адказ студэнту сп. Пазьняк заўважыў, што перадавыя краіны Захаду ёсьць пад уплывам "горбыманіі" (Гарбачова тут завуць "Горбы"). Тады з залі пачулася рэпліка, што пад уплывам

